# ПУШНЫ ЦЭХ КРАІНЫ

*(Ліст з Далёкага Ўсходу)*

Фауна Далёка-Ўсходняга краю выключна разнастайна ад пясца да белага мядзьведзя на Поўначы, ад барса да тыгра на Поўдні. Тут бацькаўшчына каштоўнейшага ў сьвеце блакітнага пясца, лісіцы вогненнага колеру, марскога коціка, марскога бабра і усурыйскага янота.

У першай пяцігодцы пушная гаспадарка краю ў асноўным насіла экстэнсыўны характар і разьвівалася галоўным чынам за лік пасіленьня загатовак другарадных відаў пушмехсыравіны (наогул-жа за пяцігодку загатоўкі вырасьлі на 40 проц.).

Рэканструкцыю пушной гаспадаркі ДУК мяркуе завяршыць у другой пяцігодцы. У гэтым годзе заканчваецца будаўніцтва шасьці вытворча-паляўнічых станцый (сваясаблівыя МТС пушной гаспадаркі); у наступныя гады Дальзаготпушніна намячае арганізаваць у краі яшчэ 100 такіх станцый. Рэалізуецца плян акліматызацыі андатры (канадзкага мускуснага пацука) і рэакліматызацыі собаля; для палепшаньня мясцовай лісіцы на Сахаліне яшчэ ў мінулым годзе былі выпушчаны на волю самцы чорнасрабрыстай лісіцы.

У першай пяцігодцы край залажыў 13 буйных зьвераводных гаспадарак. Вольна разводзіліся марскі бобр, марскі коцік і блакітны пясец на Камандорскіх выспах, собаль—на Шантарскіх выспах. На выспах і паўвыспах заліву Пятра Вялікага пачаты паўпаркавае разьвядзеньне плямістага аленя і клетачнае разьвядзеньне срабрыста-чорнай лісіцы і янота.

Зьвераводныя гаспадаркі краю значна пашыраюцца, лік іх „выхавальнікаў" павялічваецца. Да канца другой пяцігодкі стада срабрыста-чорных лісіц у гаспадарках Саюзпушніны павінна павялічыцца ў 20 разоў, стада усурыйскіх янотаў—у 130 разоў, скунсаў—у 26 разоў і г. д.

Навукова-дасьледчая станцыя Саюзпушніны (якая ўваходзіць у сыстэму акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна) будзе рэарганізавана ў буйную навукова-дасьледчую базу для вывучэньня пытаньняў, зьвязаных з рэканструкцыяй пушной гаспадаркі краю.

У апошні год другой пяцігодкі экспартная прадукцыя адных толькі зьвераводных гаспадарак Саюзпушніны ў Далёка-Ўсходнім краі будзе ўдвая больш загатоўленай у 1932 годзе.

**Кірычэнка.**

# Аб рабоце Лёзьненскага райтаварыства паляўнічых

**(Ліст паляўнічага)**

У райтаварыстве паляўнічых на працягу паўтара года ня было ніводнай рэвізіі. Ня гледзячы на неаднаразовыя звароты ў РСІ яшчэ былога старшыні райтаварыства, каб абудзіць рэўкамісію да гэтага часу—справа не ўдалася. Новы старшыня Баранаў зусім ня рэагуе на бязьдзейнасьць рэўкамісіі. Урэшце на 1-е студзеня 1933 году рэўкамісія ўзяла на вучот тавары ў цэнтральным магазыне райтаварыства. (м. Лёзна), жывы і мёртвы інвэнтар ў саўгасе Дабрамысьль і гэтым абмежавалася. Нават ніхто з членаў рэўкамісіі не палічыў патрэбным выехаць у Высачанскае аддзяленьне і там узяць на вучот тавары. Таксама ня ўзята на вучот наліčча касы ў самога старшыні райтаварыства. Гэтым работа рэўкамісіі і закончылася.

Калі рахунковы работнік яшчэ месяцаў тры таму назад заявіў, што ў крамніка ёсьць вялікая недастача,—рэўкамісія ў асобе бухгальтара Алешчанка і сам старшыня Баранаў накінуліся на яго—„ты ня маеш права гаварыць, што ў крамніка недастача—гэта паклёп і з крамнікам трэба працаваць у кантакце". Але калі старшыні райтаварыства дакумэнтальна было даказана, што загадчык магазына Сяргеенка не вапрыходаваў тавар на магазын па некалькім рахункам, на гэта старшыня выказаў такую думку: „ну, мабыць, прыдзецца загадчыку магазына толькі расьпісацца ў атрыманьні 1000 рублёў за купленага ў яго каня".

Конь куплены райтаварыствам у лістападзе месяцы мінулага году, але ніякага дакуманту аб уплаце грошай за каня ня маецца, а хто такі Сяргеенка—у часопісі „Паляўнічы Беларусі" № 2, 1933 г. ужо пісалася. Ён месяцаў два таму назад ліквідаваў сваю гаспадарку і пераехаў у кватэру пры райтаварыстве. І вось гэты кулацкі агент (вядома ня член прафсаюза), акапаўшыся загадчыкам магазына ў нашым райтаварыстве, працуе як яму ўздумаецца.

Магазын амаль заўсёды на замку. Не праходзіць ніводнага дня, каб у канцылярыю райтаварыства ня прыходзіла па 3—4 чал. са скаргаю: чаму зачынены магазын. А старшыня райтаварыства Баранаў на гэта зусім не рэагуе, прыкрывае яго. Нават на запытаньне аднаго паляўнічага з Высачан, чаму магазын заўсёды на замку, Баран адказаў яму: „ня ваша справа".

З прычыны таго, што магазын заўсёды на замку,—кульгае і гандаль, а яшчэ больш загатоўка пушмехсыравіны. Па віне Сяргеенка, Баранава ня выканан плян пушмехсыравіны за 1932 год.

Акрамя таго, слабае паступленьне пушмехсыравіны ў нашу арганізацыю ствырылася яшчэ таму, што Сяргеенка шмат недаплачвае паляўнічым сапраўднай каштоўнасьці скурак па стандарту. Ёсьць шмат вусных заяў з боку паляўнічых, ёсьць і допісы ў мясцовай газэце, але на ўсе гэтыя скаргі Баранаў глядзіць скрозь пальцы. Адным словам, усе скаргі паляўнічых аб вечна-зачыненым магазыне, аб няправільнай ацэнцы скурак і няправільнай выдачы прамфонду—голас адзінокага ў пустыні, бо старшыня райтаварыства Баранаў сплёўся з кулаком Сяргеенка і амаль штодзенна ў яго госьціць.

Ім куплен спэцыяльны конь для разьездаў па тэрыторыі раёну.

Аднак, ніводнага выезду ў ячэйкі, ніводнага сходу па рэарганізацыі ячэек у вытворча-прамысловыя брыгады, ніводнага кантрактацыйнага дагавору ні на пушмехсыравіну, ні на прадукцыю ад трусагадоўлі—усё стаіць на мёртвай кропцы. Ніводнага выезду па ахотабсьледваньні. А па перарэгістрацыі на 1933 год Баранаў выехаў у свае „родныя Высачаны", дзе прасядзеў цэлы тыдзень і перарэгістраваў толькі... 40 чалавек. Паўторна выехаў у Асінаўскі сельсавет на перарэгістрацыю,але-ж туды не даехаў, заблудзіўся і папаў зноў дадому. Работы няма—ёсьць толькі рахункі на „действительные расходы по командировке". Усяго не перакажаш.

Успомнім крыху пра саўгас Дабрамысьль (трусятнік). Склад рабочых там нядобраякасны, разбазарваньне прадуктаў прыняло шырокія разьмеры. А на пашыраным пленуме райтаварыства ледзь удалося дамагчыся, каб у абвестку дню быў уключан даклад аб гэтым саўгасе. Нарэшце ўключылі. Гаварылі шмат і горача гаварылі паляўнічыя, указвалі недахопы і шляхі зьнішчэньня іх, і парашылі зьняць з работы загадчыка саўгасу Сапегу і трусавода Галубоўскага і аддаць іх пад суд за безгаспадарчасьць. Але і гэта засталося толькі на паперы. А тым часам гаспадарка ўсё растае і растае.

Урэшце трэба-ж заняцца каму сьлед выяўленьнем сапраўднага становішча ў рабоце Лёзьненскага райтаварыства паляўнічых і вывесьці на чыстую воду ўсю гэту кампанію.

**Жог.**

У № 2 „П. Б." 1933 г. у артыкуле „Кампанія Баранава" надрукавана:—„Нават пасьля пашыранага пленума ад 7 жніўня 1931 г.," а трэба чытаць: „ад 7 сьнежня 1932 г." **Рэд.**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# Паляўнічы Беларусі

№ 3 САКАВІК 1933 г.

Орган Каапэрацыйна-прамысловага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗ“ г. Менск, Савецкая, 68

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ VII-ы год выданьня






# КАРЛ МАРКС

**(Да пяцідзесяцігодзьдзя з дню сьмерці)**

14 сакавіка г.г. споўнілася роўна 50 год з дню сьмерці вялікага змагара за вызваленьне працоўных усяго сьвету і асновапаложніка навуковага камунізму—**Карла Маркса.**

Маркс нарадзіўся 5 мая (новага стылю) 1818 г. у горадзе Трыры (Прырэйнская Прусія). Бацька яго быў адвакат, яўрэй, які прыняў у 1824 г. пратэстанства. Сям'я была заможная, культурная, але ня рэвалюцыйная. Скончыўшы гімназію ў Трыры, Маркс паступіў ва унівэрсытэт, спачатку ў Бонне, потым ў Бэрліне, вывучаў юрыдычныя навукі, але болей за ўсё гісторыю і філёзофію.

Увосень 1843 г. Маркс прыехаў у Парыж. У верасьні 1844 г. у Парыж прыехаў на некалькі дзён Фрыдрых Энгельс, які стаў з тых пор бліжэйшым другам Маркса. Яны ўдвух прынялі самы гарачы ўдзел у тагочасным кіпучым жыцьці рэвалюцыйных груп Парыжу і выпрацавалі, рэзка змагаючыся з рознымі вучэньнямі дробнабуржуазнага сацыялізму, тэорыю і тактыку рэвалюцыйнага **пралетарскага сацыялізму** або камунізму (марксызму).



КАРЛ МАРКС

У 1845 г. Маркс па патрабаваньні Прускага ўраду, як небясьпечны рэвалюцыянэр, быў высланы з Парыжу. Ен пераехаў у Брусэль. Вясной 1847 г. Маркс і Энгельс далучыліся да тайнай прапагандысцкай грамады „Саюзу камуністаў“, прынялі актыўны ўдзел на II зьезьдзе гэтага саюзу і, па яго даручэньню напісалі славуты „Маніфэст Камуністычнай партыі“, які вышаў з друку ў 1848 г. У гэтым творы з геніяльнай яснасьцю і яркасьцю абрысованы новы сьветапогляд, пасьлядоўны матэрыялізм, які ахоплівае і вобласьць сацыяльнага жыцьця, дыялектыка, як найбольш усебаковае і глыбокае вучэньне аб разьвіцьці, тэорыя клясавай барацьбы і сусьветна-гістарычнай рэвалюцыйнай ролі пралетарыяту, творца новага, камуністычнага грамадзтва.

Калі пачалася лютаўская рэвалюцыя 1848 г., Маркс быў высланы з Бэльгіі. Ён прыехаў зноў у Парыж, адтуль пасьля сакавікоўскай рэвалюцыі ў Германію—у Кёльн. Там выходзіла з 1-га чэрвеня 1848 г. па 19 мая 1849 г. „Новая Рэйнская газэта“, галоўным рэдактарам быў Маркс. Новая тэорыя была бліскуча пацьверджана ходам рэвалюцыйных падзей 1848—49 гг., як пацьвердзілі яе потым усе пралетарскія і дэмакратычныя рухі усіх краін сьвету. Перамогшая контррэвалюцыя аддала Маркса пад суд, а потым выслала з Германіі. Маркс падаўся спачатку ў Парыж, быў выслан і адтуль пасьля дэманстрацыі 13 чэрвеня 1849 г. і паехаў у Лёндан, дзе і жыў да самай сьмерці.

Умовы эміграцкага жыцьця, асабліва навочна ўскрытыя перапіскай Маркса з Энгельсам, былі вельмі цяжкімі. Нэндза проста душыла Маркса і яго сям'ю, ня будзь пастаяннай самаахвярнай фінансавай падтрымкі Энгельса, Маркс ня толькі ня мог-бы скончыць „Капіталу“, але і нямінача загінуў-бы пад гнётам жабрацтва. Акрамя таго, вучэньні і плыні дробна-буржуазнага, насогул непралетарскага сацыялізму, прымушалі Маркса заўсёды да бязьлітаснай барацьбы, часамі да адбіцьця самых шалёных і дзікіх асабістых нападак. Староняючыся ад эміграцкіх гурткоў, Маркс у шэрагу гістарычных прац распрацоўваў сваю матэрыялістычную тэорыю, прысьвячаючы галоўным чынам сілы вывучэньню палітычнай эканоміі.



Эпоха ажыўленьня дэмакратычных руху канца 50-х і 60-х г.г. зноў заклікала Маркса да практычнай дзейнасьці. У 1864 г. быў заснаваны ў Лёндане славуты 1-ы Інтэрнацыянал, „Міжнароднае Таварыства Рабочых“. Маркс быў душой гэтага таварыства, аўтарам яго першага „звароту“ і масы рэзалюцый, заяў, маніфэстаў. Злучаючы рабочы рух розных краін, стараючыся накіраваць у рэчышча сумеснай дзейнасьці розныя формы непралетарскага, дамарксыцкага сацыялізму (Мадзіні, Прудон, Бакунін, ангельскі лібэральны трэд-юніонізм, ласаліянскія хістаньні ўправа ў Германіі і інш.), змагаючыся з тэорыямі ўсіх гэтых сэкт і школ, Маркс выкоўваў адзіную тактыку пралетарскай барацьбы рабочае клясы ў розных краінах.

Пасьля падзеньня Парыскай Камуны (1871 г.), якую так глыбока, метка, бліскуча і дзейна, рэвалюцыйна ацаніў Маркс, і пасьля расколу Інтэрнацыяналу бакуністамі, існаваньне яго ў Эўропе стала немагчымым. І-ы Інтэрнацыянал кончыў сваю гістарычную ролю, уступіўшы месца эпосе нявымеральна больш буйнага росту рабочага руху ва ўсіх краінах сьвету, іменна эпосе росту яго ўшыркі, стварэньня масавых сацыялістычных рабочых партый на базе асобных нацыянальных дзяржаў.

Узмоцненая работа ў Інтэрнацыянале і яшчэ болей узмоцненыя тэорэтычныя заняткі канчаткова падарвалі здароўе Маркса. Ён працягваў сваю перапрацоўку палітычнай эканоміі і сканчэньне „Капіталу“, вывучаючы шэраг моў (напр., рускую), але скончыць „Капітал“ не дала яму хвароба.

2 сьнежня 1881 г. памерла яго жонка, 14 сакавіка 1883 г. Маркс ціха заснуў навекі ў сваім крэсьле.

# Вучэньне Маркса

**Марксызм**—сыстэма поглядаў і вучэньня Маркса. Маркс зьявіўся пасьлядоўнікам і геніяльным завяршыцелем трох галоўных ідэйных плыняў XIX веку, належачых тром найбольш перадавым краінам чалавецтва: клясычнай нямецкай філёзофіі, клясычнай ангельскай палітычнай эканоміі і францускага сацыялізму ў сувязі з францускімі рэвалюцыйнымі вучэньнямі наогул. Прызнаваемая нават праціўнікамі Маркса выключная пасьлядоўнасьць і цэльнасьць яго поглядаў, якія даюць у сукупнасьці сучасны і матэрыялізм, і сучасны навуковы сацыялізм, як тэорыю і праграму рабочага руху усіх цывілізаваных краін сьвету.

Па пытаньню аб адносінах сацыялізму Маркса да дробнага сялянства, якое застанецца ў эпоху экспропрыяцыі экспропрыятараў, неабходна ўказаць на заяўленьне Энгельса, які выразіў думкі Маркса:

„Калі мы авалодаем дзяржаўнай уладаю, мы ня будзем і думаць аб тым, каб гвалтоўна экспропрыіраваць дробных сялян (усё роўна, з узнагародаю ці не), як гэта мы вымушаны будзем зрабіць з буйнымі земляўласьнікамі. Наша задача ў адносінах да дробных сялян будзе заключацца перш за ўсё ў тым, каб іх прыватную вытворчасьць і прыватную ўласнасьць перавесьці ў таварыскую, але не гвалтоўным шляхам, а з дапамогаю прыкладу і прапановы грамадзкай дапамогі для гэтай мэты. І тады ў нас, зразумела, будзе дастаткова сродак, каб даказаць селяніну ўсе перавагі такога пераходу, перавагі, якія і цяпер ужо павінны быць яму растлумачаны“.

(**Ленін**, том XVIII, 3 е выданьне).

# Тав. Сталін пра дзейны, рэвалюцыйны характар марксызму-ленінізму

Існуюць дзьве групы марксыстаў. Абедзьве яны працуюць пад сьцягам марксызму, лічаць сябе „падлінно“ марксысцкім. І ўсё такі яны далёка не аднолькавы. Больш таго: паміж імі цэлая прорва, бо мэтады іх работы дыямэтральна супроцьлеглы.

Першая група звычайна абмяжоўваецца надворным прызнаньнем марксызму, яго ўрачыстым абвяшчэньнем. Ня ўмее ці не жадае ўнікнуць у сутнасьць марксызму, ня ўмее, ці не жадаеператварыць яго ў жыцьцё, яна жывыя і рэвалюцыйныя палажэньні марксызму ператварае ў няжывыя формы, якія нічога не гавораць. Сваю дзейнасьць яна асноўвае не на вопыце, не на вучоце практычнай работы, а на цытатах з Маркса.

Указаньні і дырэктывы чэрпае яна не з аналіза жывой рэчаіснасьці, а з аналёгіі і гістарычных параллеляй. Разыходжаньне слова з справай—такая асноўная хвароба гэтай групы. Адсюль расчараваньне і вечнае нездавальненьне лёсам, які заўсёды падводзіць яе, пакідае „з носам“. **Імя гэтай групы—меншавізм (у Расіі), апартунізм (у Эўропе).** Тав. Тышко (Іогіхес) на Лёнданскім зьезьдзе даволі метка ахарактарызаваў гэту групу, сказаўшы, што яна не стаіць, а ляжыць на пункце гледжаньня марксызму.

Другая група, наадварот, пераносіць цэнтр цяжкасьці пытаньня ад надворнага прызнаньня марксызму, на яго правядзеньне, на яго ператварэньне ў жыцьцё. Вызначэньне шляхоў, і сродкаў ажыцьцяўленьня марксызму, якія адпавядаюць абставінам, зьмена гэтых шляхоў і сродкаў, калі абставіны зьмяняюцца,—вось на што галоўным чынам зварочвае сваю ўвагу гэта група. Дырэктывы і ўказаньні чэрпае гэта група ня з гістарычных аналёгій і параллеляй, а з вывучэньня навакольных умоў. У сваёй дзейнасьці апіраецца яна не на цытаты і выслоўі, а на практычны вопыт, правярае кожны свой крок на вопыце, вучыцца на сваіх памылках і вучыць другіх будаўніцтву новага жыцьця. Гэтым уласна і тлумачыцца, што ў дзейнасьці гэтай групы слова не разыходзіцца з справай, а вучэньне Маркса захоўвае цалкам сваю жывую рэвалюцыйную сілу. Да гэтай групы зусім падыходзяць словы Маркса, у сілу якіх марксысты ня могуць спыняцца на тым, каб растлумачыць сьвет, а павінны ісьці далей, з тым, каб зьмяніць яго. **Імя гэтай групы—бальшавізм, камунізм.**

Арганізатарам і правадыром гэтай групы зьяўляецца **У. І. Ленін.**

(**Сталін—пра Леніна**).

# ПЕРАВЫКАНАЦЬ ПЛЯН ВЯСЕНЬНІХ ВІДАУ ПУШМЕХЗАГАТОВАК

Работа II пленуму Белкахотсаюзу мае вялікае значэньне ў справе мабілізацыі паляўнічай масы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі на далейшае разьвіцьцё паляўнічай гаспадаркі ў БССР і выкананьне плянаў загатовак па ўсіх відах на 1933 г. Пленум адзначыў, што пры выкананьні плянаў, неабходна ўдзяліць асаблівую ўвагу на якасьць нашай работы.

Белкахотсаюз лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу райтаварыстваў паляўнічых на работу ў вёсцы, сярод сялянскіх паляўнічых брыгад, па пытаньнях падрыхтоўчай работы да вясеньніх відаў загатовак і стопроцантнага выкананьня яе, напрыклад: па крату, вадзяным пацуку, лектэхсыравіне і інш.

Загагатоўчая кампанія мінулага году паказала, што цэлы шэраг райтаварыстваў паляўнічых яшчэ працягвалі працаваць па-старому, г. зн., самацёкам і ня здолелі пераключыцца на новыя мэтады работы, ня здолелі мабілізаваць актыўнасьць паляўнічай масы на выкананьне загатовак 1932 г.; на мясцох адсутнічала арганізацыйна-падрыхтоўчая работа да вясеньніх відаў загатовак. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў радзе раёнаў адсутнічала.

Апошні пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б сваёй пастановай абавязаў усе арганізацыі, у тым ліку і паляўнічую арганізацыю, узьняць работу ў вёсцы на належную палітычную вышыню.

Барацьба за далейшы ўздым паляўнічай гаспадаркі і правядзеньне ахотпрыпіскі зьяўляецца на сучасны пэрыяд важнейшай задачай паляўнічай арганізацыі.

Вось чаму трэба неадкладна перабудаваць работу райтаварыстваў у адпаведнасьці з рэарганізацыяй паляўнічых ячэек у вытворча-прамысловыя брыгады, каб зжыць усе маючыяся недахопы ў рабоце, для таго, каб забясьпечыць выкананьне ўсіх задач па разьвіцьцю паляўнічай гаспадаркі ў БССР і, у першую чаргу, загатовак.

II пленум Белкахотсаюзу ў сваёй пастанове яскрава ўказаў мерапрыемствы і спосабы работы па падрыхтоўцы да вясеньніх відаў загатовак і правядзеньню яе. Дзеля правядзеньня ў жыцьцё пастаноў пленуму, для практычнай дапамогі райтаварыствам, прэзыдыум Белкахотсаюзу камандыраваў 6 адказных работнікаў з цэнтральнага апарату ў рашаючыя райтаварыствы па загатоўках, а пасьля яшчэ 10, а ўсім райтаварыствам неабходна давясьці пастанову пленуму да кожнага паляўнічага.

Падрыхтоўчая кампанія павінна прайсьці пад лёзунгам: „Ніводнага працоўнага бяз удзелу ў лоўлі крата і збору лектэхсыравіны". Увесь сэзон загатоўчай кампаніі павінен прайсьці пад знакам соцспаборніцтва і ўдарніцтва, бяручы на буксір адстаючыя брыгады і асобных лаўцоў. Ход падрыхтоўчай работы і ход самых загатовак неабходна асьвятляць у нізавым друку: насьценгазэтах, райгазэтах, у часопісе „Паляўнічы Беларусі"; фатаграфаваць лепшых ўдарнікаў па лоўлі крата, па збору лектэхсыравіны і іх фатаграфіі прысылаць рэдакцыі „Паляўнічы Беларусі" для зьмяшчэньня.

Выкананьне і перавыкананьне вясеньніх відаў загатовак мае вялікую ролю ў выкананьні ўсяго народна-гаспадарчага пляну 1-га году другой пяцігодкі. Паколькі гэта так, то нам усім членам саюзу паляўнічых неабходна прыняць самы актыўны ўдзел у лоўлі крата і зборы лектэхсыравіны. Пры актыўнасьці паляўнічых мас і ўсіх працоўных гораду і вёскі, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі мы зможам выканаць і перавыканаць усе пляны загатовак, ускладзеныя на паляўнічую арганізацыю.

Перад райтаварыствамі стаіць задача—арганізаваць лоўчыя брыгады, забясьпечыць іх прыладамі лову і жывым інструктажом, а брыгады па збору лектэхсыравіны неабходна таксама праінструктаваць аб спосабах збору.

Усе вольныя гадзіны паляўнічых і працоўных мас гораду і вёскі ад свае асноўнае работы—вясеньнім відам пушмехзагатовак.

**Волдынь.**



т. Маскалеў—ударнік-паляўнічы, прэміяваны за добрую якасьць зьёмкі пушніны. Здаў пушніны на 124 р. (Аршанскі раён).



т. Булаўкін С. А.—ударнік-паляўнічы, прэміяваны за перавыкананьне пляну. Здаў пушніны на 273 р. (Аршанскі раён).

# Крот вырашае пасьпяховае выкананьне пляну пушмехзагатовак

Падвёўшы вынікі загатоўчай работы па вясеньніх відах пушмехсыравіны за 1932 г. неабходна адзначыць, што масавая падрыхтоўчая работа праводзілася, як у цэнтры, так і ў раёнах са значным спазьненьнем і, што шэраг раёнаў не даацанілі важнасьці загатовак, а таксама неабходна адзначыць, што поруч з выкананьнем пляну па зімовых відах пушніны, мы маем значнае адставаньне па вясеньніх, дзякуючы чаму ўвесь гадавы плян 1932 г. па БССР недавыканан па пушніне на 29,2 проц.

Большасьць раённых загатоўчых арганізацый недаацанілі і не наладзілі сувязі на мясцох з камсамольскімі, піянэрскімі арганізацыямі, школамі ў вясеньняй загаткампаніі пушмехсыравіны, асабліва крата. А таксама не праводзілі масава-растлумачальнай работы сярод насельніцтва аб шкодніцтве крата ў сельскай гаспадарцы і аб значэньні яго загатоўкі, які займае звыш 50 проц. усіх пушных рэсурсаў БССР. Не вялася рашучая барацьба са спэкулянтам-скупшчыкам і ачысткай зборачных апаратаў ад прымазаўшыхся клясава-чуждых элемэнтаў.

Улічваючы вопыт работы па вясеньніх відах загатовак пушмехсыравіны ў 1932 г. і ў мэтах далейшага павялічэньня вясеньніх загатовак, нам неабходна ў 1933 г. правесьці наступныя мерапрыемствы:

Асноўны мэтад загатовак вясеньніх відаў пушмехсыравіны павінен быць — вытворчая кантрактацыя. Дагаворы павінны быць вытвораны ў сапраўднай гаспадарчай згодзе, сурова захоўваць інтарэсы абодвых бакоў, з правядзеньнем шырокай масавай работы, мабілізуючы грамадзкія сілы ў адносіне правільнай арганізацыі вытворчай сыравіны, павялічэньня яе таварнасьці і павышэньня якасьці прадукцыі. Гаспадарчымі дагаварамі павінны быць ахоплены поўнасьцю калгасы, бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, лавецкія брыгады, паляўнічыя, школы і інш. арганізацыі. Што датычыцца кулацказаможных гаспадарак, яны не кантрактуюцца, а здаюць сваю прадукцыю ў парадку цьвёрдых заданьняў. Дагаворы павінны заключацца на ўвесь сэзон вясеньніх відаў загатовак пушмехсыравіны (красавік—кастрычнік) з тым, каб забясьпечыць 100 проц. выкананьне загатпляну. Таксама неабходна будзе сыстэматычна правяраць выкананьне дагавароў абодвымі бакамі.

Асноўны ўпор вясеньняй загаткампаніі па здабычы крата павінен быць узят на ўцягненьне моладзі, для чаго неабходна зьвязацца з РК КСМ' РБ ЮП, Райасьветай, Райпрофсаюзам — аб забесьпячэньні іх садзейнічаньня масавай работы для поўнага забесьпячэньня моладзі ў здабычы крата. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на арганізацыю калгаснага зборачнага апарату, арганізацыю сталых лавецкіх брыгад, правільную расстаноўку сілы брыгад, задавальненьне брыгад краталоўкамі, разьмеркаваньне адпаведных вучасткаў паміж брыгадамі і мецъ сталы кантроль і інструктаж працы кожнай брыгады. Неабходна тэрмінова вытварыць вучот краталовак у насельніцтва з мэтай правільнага іх скарыстаньня ў сэзон 1933 г.

Неабходна зьвязацца з раённым друкам і сыстэматычна асьвятляць падрыхтоўку і правядзеньне вяснавой загаткампаніі, практыкуючы чырвоныя і чорныя сьпісы кантрактантаў па выкананьню дагавароў.

Трэба зьвязацца з пуцявымі вартаўнікамі чыгункі, якія таксама могуць нам дапамагчы ў здабычы крата.

Загатарганізацыям неабходна зьвярнуць увагу на павышэньне якасных паказчыкаў па вясеньніх відах загатовак пушмехсыравіны, дамагаючыся 100 проц. кансэрвіроўкі крата ў пласьцінaчным выглядзе, што павялічыць каштоўнасьць яго на 50 проц. супроць кансэрвіроўкі ў трубчатым выглядзе, а таксама неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, што выхад крата, пачынаючы з красавіка да мая месяца зьяўляецца лепшай якасьці і ў гэты тэрмін неабходна прыняць усе захады да масавай здабычы яго. Таксама неабходна палепшыць якасьць жарабка і інш. вясеньніх відаў загатовак.

Неабходна ўлічыць, што пры наступленьні вясеньняй паводкі маюцца вялізарныя магчымасьці адлову вадзянога пацука, для чаго загатарганізацыям неабходна правесьці масавую работу і апэрацыйна зьвязацца з рыбацкімі арцелямі па адлову і загатоўцы вадзянога пацука шляхам заключэньня гаспадарчых дагавароў і ўсямерна стымуляваць гэту работу.

У зьвязку з тым, што ва ўмовах БССР хамяк і суслік зьяўляюцца новымі відамі вясеньніх загатовак, для чаго загатарганізацыям неабходна выявіць мясцовасьці знаходжаньня і павесьці адпаведную работу па іх здачы і загатоўцы.

Неабходна ўключыцца ў конкурс, абвешчаны упаўнаважаным Наркамзамежгандлю БССР на лепшую загатоўку і правядзеньне вясеньняй загаткампаніі па пушмехсыравіне, для чаго правесьці шырокую масавую работу сярод насельніцтва па заключэньню сац. дагавароў паміж ячэйкамі КСМ, калгасамі, піянэратрадамі, школамі, брыгадамі і асобнымі лаўцамі і весьці барацьбу за атрыманьне першага месца, як па ўсёй сыстэме, а таксама па асобных раёнах. Толькі пры энэргічнай рабоце райтаварыстваў і садзейнічаньні ўсіх раённых арганізацый мы даб'емся поўнага выкананьня весеньніх відаў загатовак пушмехсыравіны, гэтым самым выканаем увесь наш гадавы плян экспарту пушмехсыравіны.

Шмуклер.



Сартаваньне пушніны (база Саюзпушніны)

# Пацук—шкоднік народнай гаспадаркі і вораг здароўя працоўнага

## Зьнішчайце пацукоў! Загатаўляйце іх скуркі!



Тав. Кватэрка С.—ударнік-паляўнічы, прэміяваны за перавыкананьне пляну. Здаў яушніны на 164 р. (Аршанскі р.).

Пад пацуком гандлёва-загатоўчая номенклатура разумее ўсе віды хатніх пацукоў.

З іх найбольш часта сустракаецца і самы буйны з усіх зьяўляецца шэры пацук (ці пасюк) радзей чорны і ў меншай колькасьці першых двух відаў—рыжы пацук (ці індыйскі) і александрыйскі.

Амбарныя пацукі знаходзяцца ў самым памяшканьні, ці паблізу памяшканьня чалавека і ідуць за ім, падчас пераплываюць на параходах ці пераяжджаюць у вагонах па чыгунцы вялікія адлегласьці.

Пацукі пладавітыя і іх самка прыводзіць у год два-тры разы ад 5—10 штук пацукоў, якія да канца першага году іх жыцьця ўжо прыводзяць дзяцей.

Пацукі сустракаюцца ўсюды: паблізу сьметнікаў, водасточных канаў, на прадуктовых базах, элеватарах, збожжавых сьвірнах, бойнях, магазынах і інш. складачных і жыльлёвых памяшканьнях. Яны хутка і лоўка бегаюць, добра лазяць нават па гладкіх сьценах, майстэрскі плаваюць і робяць вялікія прыжкі. Пацукі прабіраюцца ўсюды, прагрызваючы і пракопваючы сабе хады.

Яны паядаюць усе харчовыя прадукты, водкіды, нападаюць іншы раз на хатніх жывёлін і прыносяць вялікія страты, псуючы тавары, адзеньне, прадукты, забруджваюць памяшканьне. Адсюль зусім зразумела, якія вялікія страты прыносяць пацукі штогод народнай гаспадарцы.

Па даным францускага міністэрства земляробства страты Францыі ад пацукоў складаюць 70 мільёнаў у год. Штагодныя страты ад пацукоў у Англіі абыходзяцца каля 100 мільёнаў рублёў. У Злучаных Амэрыканскіх Штатах пасьля падліку прышлі да выніку, што пацуком штогодна плоціцца даніна ў 900 мільёнаў рублёў.

Зусім зразумела, што штагодныя страты, якія прыносяць пацукі нашаму Савецкаму Саюзу, складаюць сотні мільёнаў рублёў. Гэтыя лічбы самі па сабе надта вялікія, так што нават з пункту гледжаньня толькі народнай гаспадаркі неабходна абвясьціць супроць іх бязьлітасную барацьбу.

Аднак, гэтага яшчэ мала. Навука ўстанавіла, што пацукі — небясьпечны ў сэнсе распаўсюджваньня масавых заразных захворваньняў людзей і жывёлін. У краінах, дзе час-ад-часу лютуе чума, распаўсюджвальнікамі гэтай страшнай хваробы зьяўляюцца пацукі і пацукі-ж (карабельныя) заносяць адтуль чуму ў іншыя краіны. Пацукі пераносяць у вёсках з двара ў двор ящчур (небясьпечная хвароба рагатай жывёлы) і інш. хваробы хатніх жывёлін.

Было-б памылкова, зьнішчаючы пацукоў, не зьвярнуць увагі на здабычу і загатоўку іх скурак. Трэба памятаць, што мы не настолькі яшчэ багаты пушмехсыравінай, каб выкідаць скуркі шкоднікаў нашай гаспадаркі, нават у выпадках, калі галоўнейшай мэтай зьяўляецца зьнішчэньне іх.

Скуркі амбарных пацукоў даюць зусім добраякасны мех, які з посьпехам выкарыстоўваецца як для экспарта, так і для вытворчасьці гатовых мехавых вырабаў на ўнутраным рынку (жаночыя паліто, шапкі, каўняры і г. д.).

Для лову амбарных пацукоў карыстаюцца ўсялякімі лавушкамі і капканчыкамі, рыбалоўнымі кручкамі з прынадаю, звычайнымі бочкамі з налітаю ў іх вадою і г. д.

Прыдумаць і зрабіць простыя лавушкі — не цяжка.

Скуркі здымаюцца з разрэзам па жывату, хвасты і лапкі адрэзваюцца. Скуркі прымаюцца ўсіх колераў.

Шырока арганізаваная барацьба з амбарнымі пацукамі і здабыча іх скурак — патрабаваньне эканомікі народнай гаспадаркі і сацыяльнай бясьпечнасьці!

Абавязак кожнага працоўнага прыняць актыўнейшы ўдзел у барацьбе з амбарнымі пацукамі і загатоўцы іх скурак!

Зубароўскі.

# Што мы зрабілі і што павінны зрабіць

Зараз магчыма падвесьці вынікі работы па трусагадоўлі сыстэмы Белкахотсаюза за 1932 г. Вынікі даюць узоры нездавальняючай работы, якая, праўда, можа тлумачыцца шэрагам усялякіх умоў, якія перашкаджалі працы (адсутнасьць снабжэньня будматар'яламі, кармамі, крэдытамі, насеньнем і інш.), але ўсё-ж трэба канстатаваць нездавальняючае становішча ў гэтай галіне работы. Акрамя таго, на працягу другой паловы 1932 году і да лютага 1933 году гэтая галіна работы заставалася без галоўнага гаспадара, які-б плянаваў і кіраваў ёю: НКЗБ адштурхаў гэту работу ад сябе, бо ён плянуе, быццам, выключна калгасную сыстэму, Упаўнаважаны НКЗГБ—таксама ссылаўся на пастанову СНК, па якой усё плянаваньне трусагадоўлі перадана НКЗ—і ў выніку гэтых спрэчак усе прадстаўленыя (20/IX 1932 г.) пляны на 1933 г. ляжалі бяз руху да 21 студзеня г.г.

За 1932 год Белкахотсаюз выканаў заданьне па трусагадоўлі наступным чынам: лік гаспадарак узамен 35 даведзен да 29, грунтоўнае стада ўзамен 10300 самак даведзена да 3400, што ў параўнаньні з становішчам на 1/I 1932 г. (калі было 5534 самкі) вызначае памяншэньне грунтоўнага стада.

У мэтах зьнішчэньня ўсіх недахопаў Белкахотсаюз склаў на 1933 год новыя пляны вядзеньня трусагадоўлі ўжо па новых мэтадах. Гэтыя новыя пляны прадугледжваюць на 1933 год існаваньне ва ўласных гаспадарках стада (згодна фактычнага ўкамплектаваньня на 1/1—1933 года) у 3400 самак і 425 самцоў і закантрактаваньне па калгасах і аднаасобнаму сэктару прадукцыі ад 6900 самак (5000 па аднаасобнаму сэктару і 1900 па калгасах). Па гэтаму пляну ад трусагадоўлі ва ўласных гаспадарках павінна быць атрымана прадукцыі: скурак—15032 шт., мяса—16,5 тон, пуха-шэрсьці—150 клг., а ад кантрактацыі—16751 шт. скурак і 18,4 тоны мяса—гэта значыць, поўнае выкананьне першапачатковага вызначанага пляну на 1933 год.

На працягу гэтага месяцу ўсе маючыяся зараз гаспадаркі будуць перагледжаны і ў залежнасьці ад іх моцнасьці і мэтазгоднасьці будзе ўзбуджана хадайніцтва аб зьмяншэньні іх ліку і ўзбуйненьні мацнейшых, пры абавязковых умовах захаваньня вызначанага плянам грунтоўнага стада і атрыманьня зацьверджанай колькасьці прадукцыі. Далейшае існаваньне ўласных гаспадарак будзе дапушчана выключна пры ўмовах поўнага забесьпячэньня іх усім неабходным для пасьпяховага разьвіцьця справы трусагадоўлі і выкананьня прынцыпу строга гаспадарчага разрахунку.

Праца па кантрактацыі на ўмовах сапраўднай вытворчай кантрактацыі і мабілізацыі актыўнасьці і ўнутраных рэсурсаў масы паляўнічых і ўсяго працоўнага насельніцтва на выкананьне заданьняў па павялічэньню мясных і сыравінных рэсурсаў, як для экспарту, таксама і для сваіх патрэб,—павінна праводзіцца райтаварыствамі па наступных умовах, якія палягчаюць і паляпшаюць наогул усю працу:

1) шырока разгарнуць працу па трусагадоўлі ў парадку масавай вытворчай кантрактацыі ў насельніцтва прадукцыі трусагадоўлі, прыцягваючы гэтай формай сродкі і сілы насельніцтва;

2) аб'яднаць аднаасобнікаў—трусаводаў у трусаводныя таварыствы з мэтай сумеснага набыцьця племматар'ялу, сумеснай выпрацоўкі клетак і арганізацыі кармавой базы;

3) зьвярнуць асаблівую ўвагу на кантрактацыю прадукцыі трусагадоўлі сярод калгасаў, рабочых фабрык і заводаў і ўсяго працоўнага насельніцтва;

4) ужываць мэтады снабжэньня кантрактантаў племматар'ямі, будаўнічымі матар'ямі, кармамі і наогул усім, што будзе патрэбна, шляхам загатоўкі ўнутры раёну;

5) прыняць усе захады да неабходнага абслугоўваньня кантрактантаў інструктажам, кансультацыяй і вэтнаглядам райтаварыствам;

6) арганізаваць пры кожным райтаварыстве сэкцыі трусагадоўлі як з членаў таварыства, таксама і з працоўнага насельніцтва ў мэтах дапамогі праўленьню таварыства ў папулярызацыі і рацыяналізацыі справы трусагадоўлі;

7) шырока апавясьціць усё працоўнае насельніцтва аб прыбытковасьці і неабходнасьці разьвіцьця трусагадоўлі і дапамогі ў гэтым напрамку таварыству паляўнічых. Скарыстаць у гэтых мэтах мясцовы друк, насьценныя газэты, мэтады гутарак і лекцый.

8) у справу разьвіцьця трусагадоўлі ўцягнуць мясцовыя камсамольскія арганізацыі, школы; узьняць вакол гэтага пытаньня ўсю грамадзкасьць;

9) арганізаваць куткі трусагадоўлі з плякатамі, лёзунгамі, дыяграмамі, рацыёнамі кармоў, узорамі клетак і абсталяваньня трусятніку рабочага, калгасьніка і аднаасобнай працоўнай гаспадаркі;

10) у мэтах складаньня фонду племматар'ялаў, дамовіцца з мясцовымі пунктамі загатжывёлы аб замене паступаючых на мяса трусоў-самак адпаведнай вагі самцамі;

11) у мэтах зацікаўленасьці насельніцтва (кантрактантаў) неабходна мець племматар'ял, магчыма большай колькасьці парод: шэншыла, белы велікан, фляндэр, вэнскі блакітны, рэксы і інш. і арганізаваць злучныя пункты з належнай колькасьцю вытворцаў адпаведных парод.

Пры выкананьні гэтых умоў, добрай працы ў гэтай галіне райтаварыстваў паляўнічых магчыма будзе выканаць заданьне і добра паставіць справу трусагадоўлі.

**Б. С.**

**АДКАЗЬНЕЙШАЯ ЗАДАЧА РАЙТАВАРЫСТВАЎ ПАЛЯЎНІЧЫХ І ТРУСАГАДОЎЧЫХ ГАСПАДАРАК—ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ СВАЕ ВУЧАСТКІ ЗЯМЛІ ДОБРАЯКАСНЫМ І ГАТУНКОВЫМ НАСЕНЬНЕМ, ВЫКАНАЦЬ ПЛЯНЫ ВЯСЕНЬНЯГА ЗАСЕВУ І ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ СВАЕ ТРУСАГАДОЎЧЫЯ ГАСПАДАРКІ КАРМАМІ НА ЎВЕСЬ ГОД — — —**

# СЫСТЭМЫ ўтрыманьня трусоў

У сучасны момант існуе цэлы рад сыстэм утрыманьня трусоў, якія ўяўляюць сабой самыя разнастайныя пераходы ад клеткі плошчаю 60×100 см. да ўтрыманьня трусоў у бліндажох і на волі. Калі на волі і ў бліндажох трусу даецца свабодны рух на любыя адлегласьці, якія дазваляе яму яго біялёгічная асаблівасьць, і даецца свабода выбару месца для пабудовы гнязда (нары), дык ужо ў гарэне свабода рухаў па плошчы і свабода выбару месца для нары абмяжоўваецца штучнай аградай, зробленай рукамі чалавека. Магчымасьць актыўнага ўзьдзеяньня чалавека ў справе зьмены арганізму труса, накіраваньня яго эвалюцыйнага разьвіцьця ў бок здабыцьця лепшых гаспадарчых якасьцяй, павялічэньня вагі, палепшаньня якасьці скуркі, атрыманьня большай колькасьці пуху і г. д. павялічваецца па меры пераходу ад вольнага ўтрыманьня жывёлін да ўтрыманьня ў клетцы.

Пры клетачным ўтрыманьні трусавод мае магчымасьць цалкам і хутка праводзіць сэлекцыйныя работы па адбору лепшых жывёлін, па замацаваньні лепшых задаткаў спадчыны. Пры клетачным і вальерным утрыманьні чалавек мае магчымасьць паляпшаць прадукцыйнасьць жывёлін, прымяняючы рацыянальнае кармленьне. Шляхам своечасовай злучкі самак і адсадкі маладняка маецца магчымасьць, па жаданьню чалавека, атрымоўваць неабходную колькасьць акролаў на працягу году, вядома, у межах прыродных асаблівасьцяй труса.

З дня на дзень у клетцы трус знаходзіцца пад наглядам чалавека і ў сувязі з гэтым маецца поўная магчымасьць у любы час аказаць вэтэрынарную дапамогу захварэўшай жывёле, ці ізаляваць яе ад здаровага стада. Усе гэтыя пытаньні—сэлекцыя, рацыянальнае кармленьне, злучка, адсадка, лячэньне і ізаляцыя—пры іншых сыстэмах утрыманьня не падлягаюць кантролю чалавека.

У справе ўтрыманьня трусоў нельга спыняцца толькі на клетачнай сыстэме ўтрыманьня і закідаць усе іншыя. Ні для каго не сакрэт, што ў большым ліку паўднёва-ўсходніх раёнаў нашага Саюзу, на Паўночным Каўказе, у Казахстане, на Ніжняй Волзе маюцца вялікія плошчы стэпу, якія яшчэ не скарыстоўваюцца земляробствам без папярэдніх ірыгацыйных работ па арашэньню, што патрабуе значных затрат і часу. Усе гэтыя раёны ўключаюць ў сябе вялікую колькасьць угодзьдзяў з даволі разнастайнай і багатай расьліннасьцю; разьвіцьцё экстэнсыўнай жывёлагадоўлі ў паўднёвых стэпавых раёнах дае магчымасьць хутка і рацыянальна выкарыстаць вялікія прасторы ў бліжэйшыя гады без асаблівых затрат на ірыгацыйныя работы. Разьвіцьцё трусагадоўлі з прымяненьнем бліндажнай сыстэмы ўтрыманьня і гарэн у гэтых раёнах дасьць магчымасьць краіне павялічыць харчовыя рэсурсы на дзесяткі тысяч тон мяса.

Усе сыстэмы ўтрыманьня, якія існуюць у сучасны момант, можна падзяліць на дзьве вялікія групы:

1. **Клетачнае ўтрыманьне.** Да гэтай групы адносяцца ўсе клеткі—знадворныя, цёплыя і пад навесамі, вальеры—адчыненыя і зачыненыя, садкі і г. д.

2. **Групавое і масавае ўтрыманьне.** Сюды адносяцца паркеты, гарэны і бліндажы.

Клетачная сыстэма прадугледжвае ізаляванае ўтрыманьне кожнай узрослай жывёлы—самца ці самкі—у асобным памяшканьні і ў клетцы ці вальеры. Такое ўтрыманьне практыкуецца ва ўсіх нашых племянных трусагадоўчых саўгасах і калгасах, а таксама ў гаспадарках калгасу, калгасьнікаў, рабочых і служачых, якія займаюцца трусагадоўляй дома.

Па індывідуальнаму ўтрыманьню трусоў у нас ёсьць вялікі вопыт. Індывідуальнае ўтрыманьне зарэкамандавала сябе як добрая сыстэма з заатэхнічнага боку, але ня зусім здавальняючая з эканамічнага. Пабудова асобных памяшканьняў для кожнага маленькага зьвярка абыходзіцца дорага і кладзецца на сабекошт прадукцыі.

Групавое і масавае ўтрыманьне трусоў прымяняецца ў гаспадарках, якія ставяць сабе мэтаю вытворчасьць не племяннога матар'ялу, а прадукцыю—мяса і скуркі. Групавое ўтрыманьне мяркуе ўтрыманьне жывёлін групамі ў адным памяшканьні па некалькі самак у кожным. Па групавому ўтрыманьню ў паркетах і гарэнах на сёньня маецца вопыту значна менш, чым па разьвядзенню ў клетках і вальерах.

**Камбінаванае ўтрыманьне трусоў.** Вельмі часта нават у племянных гаспадарках практыкуецца камбінаваньне розных сыстэм утрыманьня. Так, напрыклад, асноўнае матачнае стада ўтрымоўваецца ў клетках, а маладняк выхоўваецца ў паркетах ці гарэнах. Самкі ўтрымоўваюцца ў паркетах ці гарэнах, а самцы сядзяць у клетках, і злучка вытвараецца ці ў клетцы ў самца шляхам лоўлі самак і падсаджваньня на некаторы час да самца, ці самец перыядычна выпускаецца на некалькі дзён у паркету ці гарэну. Такіх прыкладаў камбінаваньня сыстэм утрыманьня можна прывесьці яшчэ некалькі. Усе яны прымяняюцца ў залежнасьці ад таго, якімі магчымасьцямі валодае гаспадарка і што прадстаўляецца найбольш выгадным, абы гэта не адбівалася на колькасьці і якасьці выпускаемай прадукцыі.

## Выбар сыстэмы ўтрыманьня

Сыстэма ўтрыманьня ў трусаводзтве яшчэ ня ўсё, але ад правільнага выбару сыстэмы ўтрыманьня ў значнай ступені залежыць эфэктыўнасьць і даходнасьць гаспадаркі. Выбар сыстэмы ўтрыманьня павінен ўтварацца, па-першае, у адпаведнасьці з напрамкам гаспадаркі і, па-другое, з улікам геаграфічных і кліматычных умоў і гаспадарчых магчымасьцяй.



Племянная гаспадарка, якая ставіць сабе за мэту вытворчасьць племяннога труса, павінна спыніцца на сыстэмах клетачнага ўтрыманьня, хаця-б асноў-

нага стада самак і самцоў. Гэта дасьць магчымасьць найбольш правільна і чотка паставіць племянную работу па сэкцыі труса, а гэта зьяўляецца, адным з асноўных патрабаваньняў, якія прад'яўляюцца да племяннной гаспадаркі. Ні адна групавая сыстэма ўтрыманьня—ні паркета, ні гарэна, ні бліндаж—не задавальняюць племянную гаспадарку. Наадварот, групавое ўтрыманьне выключае ўсякую магчымасьць вядзеньня племяннной работы. У паркетах і гарэнах магчыма толькі падсаджваньне самцоў для мэтызацыі ці асьвяжэньня крыві. Вылаўліваньне самак з паркет і пакрыцьцё іх самцамі, якія сядзяць у клетках, немагчыма.

**І так, для племяннога напрамку гаспадаркі выбар спыняецца на клетцы ці вальеры.**

Гаспадаркі для мясной прадукцыі могуць спыніцца на любой сыстэме ўтрыманьня, якія існуюць у сучасны момант: прыменіма клетка вальера, гарэны, паркеты, бліндажы.

Выбары сыстэмы ўтрыманьня для гаспадарчага трусятніка трэба ўтвараць з улікам геаграфічных і кліматычных умоў. Справа ў тым, што самыя прымітыўныя сыстэмы ўтрыманьня—бліндажы і гарэны—пакуль што не далі станоўчых вынікаў. Неаднаразовыя вопыты за апошнія гады па гарэннаму разьвядзеньню ў трусагадоўчых саўгасах Маскоўскай вобласьці паказалі, што дарослыя трусы нават культурнай пароды ў гарэнах жывуць надзвычай добра, добра пераносяць і зімовыя халады і асеньнія дажджы, але выхад маладняка ад іх вельмі малы. Выхад маладняка малы не таму, што яго нараджаецца вельмі мала, а таму, што маладняк у большасьці выпадкаў гіне ва ўзросьце ад 21 да 75 дзён ад шматлікіх дажджоў, ад хвароб, а болей ад драпежнікаў, якіх у лясных раёнах вельмі шмат. І дапамога з боку чалавека ў справе аховы гарэннага труса ад яго ворагаў-драпежнікаў і ад хвароб для гарэны яшчэ мала эфэктыўная.

Выбар сыстэмы ўтрыманьня павінен вытварацца і ў прыстасаваньні да глебавых асаблівасьцяй мясцовасьці. Нельга на цяжкіх глебах і ў нізінах, дзе могуць зьбірацца вясеньнія воды, будаваць вальеры. Вальеры трэба прымяняць толькі на такой плошчы, дзе ёсьць пясчаная ці якая-небудзь іншая глеба, якая лёгка прапускае ваду. Неабходна ўлічваць таксама і глыбіню падглебавых вод у розныя поры году. На участках, дзе блізка падглебавая вада (2—3 м. ад паверхні), нельга будаваць гарэны і паркеты, бо самкі, якія вырыюць норы і прынясуць прыплод, вясною, ці нават увосень у дажджлівыя дні ня знойдуць сабе ў іх сховы, а маючыйся ў норах бездапаможны маладняк цалкам загіне ад падземнай паводкі.

### Выбар канструкцыі

Кожная асобная сыстэма,—будзь гэта клетачная, вальерная, паркетная ці бліндажная,—мае вельмі шмат канструкцый, якія іншы раз адрозьніваюцца нязначнымі, а часам і істотнымі дэталямі. Па гэтаму пытаньню сярод спэцыялістаў трусаводзтва маецца даволі ўдалы выраз, што лік сыстэм утрыманьня роўны арыфмэтычнай суме людзей, якія займаюцца трусаводзтвам, г. зн. кожны трусавод імкнецца мець хаця нязначна, але адрозьненую ад іншых канструкцыю будовы клетак. Тая-самая клетка ў кожнай трусагадоўчай гаспадарцы прымяняецца і перарабляецца ў дэталях і ў прынцыпе так, як лічыцца рацыянальна для гаспадаркі і труса. Клеткі ў зачыненых памяшканьнях, клеткі пад навесам, клеткі на вуліцы—іх безьліч у разьмерах і формах. Такі-ж малюнак і па ўсіх іншых сыстэмах утрыманьня. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, тым, што трусаводзтва—маладая галіна жывёлагадоўлі, і з другога—тэй аматаршчынай, якая суправаджала ў нас трусаводзтва на першых пачатках яго разьвіцьця. Але ўжо цяпер па вопыту нашых буйных трусагадоўчых саўгасаў знойдзены сыстэмы канструкцыі клетак і вальер, якія калі ня зусім, дык найбольш задавальняюць тым патрабаваньням, якія прад'яўляюцца да канструкцый сыстэм утрыманьня.

Патрабаваньні, якія прад'яўляюцца да канструкцыі вытворчых трусагадоўчых пабудоў, зводзяцца да наступных заатэхнічных і эканамічных палажэньняў:

1. Прадаставіць плошчу хоць-бы для мінімума рухаў, неабходных даросламу трусу, і асабліва маладняку.

2. Прадаставіць неабходную колькасьць сьвятла ў памяшканьні, дзе сядзіць трус; хаця трус і начная жывёліна, але сьвятло яму ўсё-ж неабходна.

3. Забясьпечыць сталым прытокам сьвежага паветра, якое для труса бязумоўна неабходна.

4. Пабудова павінна быць прыстасаванай і простай для штодзеннага абслугоўваньня (кармленьне, ачыстка, дэзынфэкцыя, злучка).

5. Пабудова павінна задавальняць усім патрабаваньням заагігіены і прафіляктыкі.

6. Пабудова павінна быць як мага менш працаёмкай, г. зн. каб пры найменшых затратах рабочай сілы атрымаць найбольшы эфэкт.

7. І ўрэшце апошняе, асабліва важнае ў прадукцыйных гаспадарках,—таннасьць асноўных пабудоў: клетак, вальер, паркет і гарэн.

Патаненьне будаўніцтва ў трусаводзтве можа быць дасягнута двума шляхамі: першы шлях—стандартызацыя і механізацыя вытворчасьці клетак і вальер—шлях, які прымяняецца ў трусагадоўчых саўгасах; другі—выкарыстаньне танных нядэфіцытных матар'ялаў, якія маюцца на месцы, выкарыстаньне адыходаў лесапільнай вытворчасьці, выкарыстаньне тары-скрынак, бочак і адыходаў ад іншых вытворчасьцяй, выкарыстаньне ўсяго, што можна дастаць на месцы, падыходзячага для клеткі ці вальеры, і зрабіць клетку найбольш таннай. Гэты шлях прыменімы і рэкамэндуецца для ўсіх арганізацый, рабочых і калгасьнікаў, якія жадаюць разводзіць трусоў.

**В. Благадзяцеляў.**

# ПРАВЯДЗЕМ ВОПЫТНЫ ЎЛІК ВЫНІКАЎ МЭТЫЗАЦЫІ ТРУСОЎ

*(З бюро замежнага вопыту Навукова-дасьледчага Інстытуту трусаводзтва „Советское Кролиководство, № 12—13, 1932 г.)*

Лепшым мэтадам павышэньня мясных якасьцяй беспароднага труса зьяўляецца мэтызацыя. Пад словам „мэтызацыя“ разумеецца скрыжаваньне беспароднага труса з лепшымі пародамі, якія сябе зарэкамэндавалі карыснымі якасьцямі. Такімі пародамі зьяўляюцца: вэнскі блакітны, белы вялікан, фляндэр, шэншыла*).

Мэтызацыя павінна павялічыць мясную таварную прадукцыю трусагадоўчых саўгасаў, калгасаў і фэрм. У справу масавай мэтызацыі павінны ўключыцца ўсе трусагадоўчыя гаспадаркі; працаўнікі па трусаводзтву павінны змагацца за павышэньне якасьці беспароднага труса. Пры масавай мэтызацыі неабходна паставіць дакладны ўлік яе вынікаў. Для ўліку мэтызацыі неабходна арганізаваць на фэрме вопытную групу такой вялічыні, каб забясьпечыць правільны ўлік, выходзячы з наліčча працаўнікоў на фэрме. Такія групы могуць быць у 10—20 самак. Для вопытнай групы адбіраюць 10—20 самак беспародных, сярэдніх, сярэдняй жывой вагі (г. зн. маючую ў большасьці самак беспародных такую жывую вагу, якая наглядаецца ў гаспадарцы), і забясьпечваюць для іх бесьперабойнае кармленьне. Да гэтых самак трэба адабраць самца аднэй з пляна вых парод—вэнскага блакітнага, вэнскага белага, фляндра, шэншыла ці белага вялікана. Самец павінен мець таксама сярэднюю жывую вагу для свае пароды. Пасьля гэтага самкі пакрываюцца самцом.

Для спрашчэньня вопыту неабходна ўсіх самак злучаць з самцом якой-небудзь аднэй пароды.

З моманту нараджэньня трусянят трэба ўстанавіць дакладнае назіраньне за разьвіцьцём прыплоду. Для гэтага неабходна маладняк ўзважваць у наступныя тэрміны: праз дзесяць дзён узважваецца кожнае трусяня і адзначаецца каляровым алоўкам; праз наступныя 10 дзён зноў узважваецца кожнае трусяня, каб даведацца, як ён разьвіваецца. Наступнае ўзважваньне трусянят трэба ўтварыць у час адʼёмку іх ад самкі. Неабходна таксама рабіць запісы, якім кормам і ў якой колькасьці кармілі самак ў пэрыяд цяжарнасьці і кармленьня падсоса. Пятае і наступныя ўзважваньні вытвараюцца праз кожныя 20 дзён да дасягненьня трусянятамі 8—9 месяцаў.

Вынікі ўзважваньня кожнага трусяняці запісваюцца ў сшытак зараз-жа пасьля ўзважваньня. У гэты сшытак заносяцца і ўсе іншыя запісы.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, каб з самага пачатку ўзважыць усе свае магчымасьці і сілы для правядзеньня вопыту, каб ня перарываць ужо пачатага.

Сэктар генэтыкі і сэлекцыі Навукова-дасьледчага інстытуту трусаводзтва пры акадэміі сельска-гаспадарчых навук У. І. Леніна (станцыя Удзельная, Маскоўска-Казанскай ж. д.) у сучасны момант прыступіў да закладкі вопытаў мэтызацыі труса і ўстанаўлівае сувязь з трусагадоўчымі саўгасамі, калгасамі, школамі і фэрмамі, дзе будзе вытварацца мэтызацыя. Усе гаспадаркі і асобныя працаўнікі па трусаводзтву саўгасаў і калгасаў, якія жадаюць уключыцца ў правядзеньне вопытаў па ўліку масавай мэтызацыі, павінны будуць зараз-жа падрыхтаваць патрэбную колькасьць самак і самцоў і паведаміць аб гэтым у Інстытут трусаводзтва.

Гаспадаркам, якія ўключыліся ў вопыт мэтызацыі, сэктар генэтыкі і сэлекцыі вышле дадатковы матарʻял па правядзеньні вопыту і форму ведамасьці ўліку вынікаў мэтызацыі.

Пасьля правядзеньня вопыту ўсе матарʻялы павінны быць прысланы ў сэктар генэтыкі і сэлекцыі Інстытуту трусаводзтва для распрацоўкі і агульных вывадаў.

Мэтызацыя, якая праводзіцца ў трусаводзтве, павінна быць падтрымана грамадзкасьцю саўгасаў калгасаў, КТФ, ЗРК і інш. У вопытны ўлік вынікаў мэтызацыі павінны быць уключаны ўсе работнікі трусагадоўчых гаспадарак.

**Б. Мяншоў.**

*) Аўтар, мабыць, мае на ўвазе шэншылу вялікую, бо малая шэншыла можа даць вельмі нязначны эфэкт пры мэтызацыі на павялічэньне мясной прадукцыі. Рэд.

# ВОПЫТ УТРЫМАНЬНЯ ТРУСОЎ БЕЗ КАНЦЭНТРАВАНЫХ КАРМОЎ

Л. Шварабовіч у артыкуле „Содержание кроликов летом без концентрированных кормов“ (часопіс „Советское кролиководство“, № 7 за 1932 г.) зрабіў вывад аб магчымасьці ўтрыманьня трусоў летам на адным зялёным корме. Да гэтага-ж вываду прышоў і я, утрымоўваючы сваіх трусоў амаль на аднэй зеляніне. Да вясны мінулага году я меў 3-х самак пароды вэнскі блакітны, шэншыла і ангорскі. Дзьве з іх—вэнская блакітная і ангорская—былі пакрыты 1-га лютага, у сакавіку акаціліся, а да 15 мая трусяняты ўжо былі адняты ад маткі.

Першыя два тыдні трусянятам даваўся зялёны корм і жытнія вотрубі. Так як зеляніны яшчэ было мала, дык галоўную частку рацыёну складалі вотрубі. Да першага чэрвеня трусянята былі пераведзены выключна на зялёны корм. У корм зьбіраліся лопух, палын, дмухавец, а пазьней у бліжэйшым лесе падасьпела швэдзкая канюшына, сунічнік і інш. травы. Корм даваўся у дастатковай колькасьці. На гэтым-жа корме ўтрымоўваліся самцы (3 галавы) і самкі ў пэрыяд адпачынку і першыя тры тыдні цяжарнасьці. У канцы-ж цяжарнасьці самкам даваліся вотрубі па 30 грам у дзень на галаву, а ў пэрыяд падсосу—па 30, затым па 40 і ўрэшце па 50 грам да 6-тыднёвага ўзросту трусянят.

Вынік: трусяняты ад вэнскай блакітнай да 15 верасьня важылі ў сярэднім па 3.100 грам і ад ангорскай па 2.350 грам. Іх маткі ня схудалі, далі на працягу лета па 4 акролы і вельмі добра выкармілі сваіх трусянят. Пры гэтым вэнская блакітная дала 20 трусянят, а ангорская 18 трусянят за тры акролы (4-ы акрол у яе быў пасьля 15 верасьня).

Самцам на працягу ўсяго лета таксама даваўся выключна зялёны корм і яны ня страцілі ў вазе. Толькі ў верасьні, калі зеляніна пачала падсыхаць,

зьявілася неабходнасьць падкармлiваць трусоў канцэнтраваным кормам.

На гэтым вопыце я ўпэўніўся, што летам няма ніякай неабходнасьці ўтрымоўваць трусоў на канцэнтраваных кармох. Апошнія неабходны толькі цяжарным самкам і што кормяць трусянят і маладняку ў першыя тыдні пасьля ад'ёму іх ад матак. Ды гэта зразумела і без асобных вопытаў. На самай справе трусы пры вольным утрыманьні не атрымоўваюць канцэнтраваных кармоў у летнія месяцы і тым ня менш надзвычай добра сябе адчуваюць. Патрэбен толькі добры падбор траў, чаго можна дасягнуць пасевам на вучастку райтаварыства канюшыны і іншых траў.

Аднак можа ўзьнікнаць пытаньне: ці ня будзе зялёны корм даражэй канцэнтраванага? Тут усё залежыць ад пасьпяховай арганізацыі ўласнай кармавой базы, ад цаны на канцэнтраваныя кармы і ад магчымасьці выкарыстаньня ў якасьці зялёнага корму ня толькі сеяных траў, але і траў з сенажаці. Пры вялікай колькасьці траў вядома выгадней будзе ўтрымоўваць трусоў толькі на зялёным корме.

**(Вяцкія паляны, Горкаўскага краю)** Заатэхнік **Далгушоў.**

# АБ ТРУСОХ І ТРУСАВОДАХ

Трусаводчая фэрма саўгасу „Дудзінка" арганізавалася ў 1931 годзе. З дню ўкамплектаваньня, з Сіроцінскага раёну было прывезена 30 штук трусоў звычайнай пароды. Потым з Магілеўскага раёну 70 галоў пародзістых і з Масквы 240 штук, з іх некалькі пар з пароды вэнскіх блакітных і шаншалаў. На 1-е студзеня 1932 году на фэрме налічвалася ўсяго 749 трусоў.

З дню існаваньня фэрмы ўсялякая арганізацыя работы на ёй адсутнічала. Дырэктарам фэрмы працаваў **Пахомаў**, які да сваіх абавязкаў адносіўся нядобрасумленна. Аргумэнтам гэтаму можна прывесьці той факт, што лік пагалоўя трусоў не ўзрастаў, а з кожным днём скарачаўся. Увесь час, а таксама і на сёняшні дзень на фэрме адсутнічае сталы вучот прыплоду; калі кольвечы што і запісваецца, дык са слоў даглядчыц. Наогул, вучоту, як камплектаваньня, а таксама і даходу ад фэрмы сталага няма.

Пэрыядызацыя ў акоце трусаматак ня была наладжана. Акоты ўтвараліся ў любую пару году. Так, напрыклад, акоты ў студзені заўсёды давалі адмоўныя вынікі; з прычыны вялікіх марозаў маладняк траціўся. Пэрыяды лактацыі таксама не захоўваліся, што бясспрэчна дрэнна адбівалася на стане здароўя трусаматак.

Былы дырэктар Пахомаў ня ставіў пытаньня перад упаўнаважаным Белпушніны аб наладжваньні работы фэрмы і гэтай справай ня цікавіўся. Частыя зьмены трусаводаў спараджалі абязьлічку ў доглядзе. Трусаводы з-за сваёй недастатковай кваліфікацыі, не маглі спраўляцца з тымі задачамі, якія на іх ускладаліся.

Ліпень і жнівень месяцы 1932 году трусаводам працавала т. **Рачыцкая**, якая да сваіх абавязкаў адносілася па-казённаму. За час яе прабыцьця ў якасьці трусавода з фэрмы прапала 193 трусы.

Рабачком саўгасу „Дудзінка" стаіць у баку ад гаспадаркі: ня было ніводнага сходу членаў саюзу, дзе-б разглядалася пытаньне становішча трусятніка. **Шкель**—старшыня рабачкому—замест таго, каб мабілізаваць рабочы калектыў на ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, на ўзьняцьце прадукцыйнасьці працы праз сацспаборніцтва і ўдарніцтва, заўсёды п'янствуе і робіць прагулы. Былі выпадкі калі трусы заставаліся бяз ніякага догляду.

Кармавая база саўгасу вельмі слабая: маецца 2258 кгр. аўсу, 27500 кгр. сена, 340 кгр. морквы і бульбы 25500 кгр.; гэтая колькасьць разьлічана і на насенфонды, і на харч для жывёлы, якая маецца на фэрме.

Кормяць трусоў 3 разы ў суткі: раніцой а 8 гадзіне даюць авёс, днём а 12 гадзіне караньплоды і а 5 гадзіне ўвечары сена і маладыя парасткі дрэва. Зараз догляд у асноўным наладжан, але ўсё-ж шмат трусоў на сёнешні дзень хварэе. З 1 па 11 студзеня г.г. прапала 18 штук. Прычыны хваробы крыюцца ў няўмелым доглядзе. На фэрме на 11 студзеня налічвалася 208 штук трусоў.

Усёй зямлі саўгас мае 41 *га*. З гэтай колькасьці шмат плошчы занята лесам і балотнай сенажацьцю. Гарэна (загарадзь) адведзена на балотнай імшарнай мясцовасьці, дзе расьлінны пакроў надзвычай бедны. З прычыны гэтага ў летні час для трусоў няма добрага выпасу.

У заключэньне патрэбна адзначыць, што з боку Белпушніны, як кіраўніка і гаспадара гэтай справы, на становішча фэрмы мала зьвярталася ўвагі. Белпушніна не давала канкрэтных кіруючых указаньняў у напрамку наладжваньня работы па трусагадоўлі.

Райза, а таксама і райвыканком павінны дасканала высьвятліць гаспадарчае становішча фэрмы і ў найкарацейшы тэрмін наладзіць яе работу як сьлед. Разгільдзяі і злачынцы, што разбазарваюць трусоў, павінны панесьці суровую адказнасьць.

**М. Румянка.**

# Масавую работу—на ўзровень задач

Змазваньне масавай работы, фармальнае яе правядзеньне павінна разглядацца, як апартунізм на практыцы, як прамы зрыў важнейшае часткі работы па арганізацыі паляўнічага промыслу і гаспадаркі, па забесьпячэньні выкананьня экспартных заданьняў і бесьперабойнай работы пушнамехавых загатавіцеляў.

Але, ня гледзячы на вялікую ролю масавай работы ў справе арганізацыі паляўнічай гаспадаркі і кааперацыі, і, як неабходнага фактара і самага галоўнага ў масавай рабоце—**рабселькора-паляўнічага**—нашы райтаварыствы выкінулі з поля зроку. Забылі, што праз рабселькора-паляўнічага і пры яго актыўнай дапамозе хутчэй льга выкарчаваць апартунізм з сыстэмы Белкахотсаюзу. Калі на сёняшні дзень запытаць у любога з старшынь райтаварыстваў паляўнічых: „а як у вас справа з рабселькорамі, ці ёсьць яны ў вашым раёне, ці цікавіліся вы выяўленьнем іх“? Атрымаем адзін адказ: „гэтай справай ня было калі займацца, думаем пасьля падзаняцца ёю“.

Вось гэтыя разважаньні „ня было калі займацца“ і зьяўляюцца адным з буйнейшых і, я-б сказаў, самым галоўным недахопам у справе рэарганізацыі паляўнічай сыстэмы. У сучасны момант нашы райтаварыствы рэарганізуюцца. А ці відно як яны рэарганізуюцца, што наогул робіцца па раёнах, чым жыве сёньня раён і якія яго пэрспэктывы ў разьвіцьці свае паляўнічае гаспадаркі? Аб гэтым вы, чытач, убачыце вельмі і вельмі мала. Наша адзіная ў БССР паляўнічая часопісь „Паляўнічы Беларусі“ мае ў сваім распараджэньні толькі з 30—35 раёнаў рабселькораў-паляўнічых, якія і асьвятляюць жыцьцё свайго раёну. А астатнія раёны? І ці можам мы задаволіцца гэтымі 30—35 раёнамі? Ці могуць яны даць поўны малюнак становішча таго ці іншага пытаньня паляўнічай гаспадаркі? Ні ў якім разе ня змогуць.

А гэта становіць сабой пагражаючае становішча яшчэ і таму, што адсутнасьць зацікаўленасьці, поўнае ігнараваньне культмасавай і палітвыхаваўчай работы наглядаецца ў пераважнай большасьці раёнаў. Гэта ігнараваньне і адсутнасьць зацікаўленасьці ў большасьці раёнаў справай арганізацыі і пашырэньня рабселькораўскага руху сярод паляўнічых мас — прывяло гэтыя раёны да поўнага правалу пушмехзагатовак і інш. відаў. Праглядзеце ўсю часопісь „Паляўнічы Беларусі“, і вы ня знойдзеце ніводнага допісу з Узьдзенскага, Парыцкага і інш. райтаварыстваў, якія ў № 2, 1933 г. „П. Б.“ занесены на чорную дошку.

Нашы райтаварыствы, мабыць, не разумеюць ці недаацэньваюць тэй ролі, якую адыгрываюць рабселькоры ў нашым сацыялістычным будаўніцтве. А між тым **„рабселькоры—камандзіры грамадзкай думкі“** — вызначэньне, зробленае тав. **Сталіным**, я думаю абавязвае ў аднолькавай ступені ўсе арганізацыі і ўстановы, у тым ліку і паляўнічыя, да ўсямернага пашырэньня і разьвіцьця рабселькораўскага руху, шляхам арганізацыі ўдарных брыгад друку, вылучэньня з прамыслова-вытворчай брыгады карэспандэнта, выяўленьня рабселькораў-адзіночак і г. д. Гэтыя магчымасьці мы маем цяпер у поўнай меры. Наша вытворча-прамысловая брыгада заключае ў сабе ўсю работу вытворча-тэхнічнага і культасьветнага характару.

Аднак практыка правядзеньня работы, што ёсьць на сёнешні дзень па рэарганізацыі паляўнічай гаспадаркі і характарызуе сабою дачыненьне паляўнічых арганізацый да арганізацыі рабселькораўскага руху, з усёй відавочнасьцю сьцьвярджае зусім адваротнае. Нашы рэарганізатары ячэек у брыгады забываюць уставіць пункт аб выяўленьні рабселькораў-паляўнічых, аб арганізацыі маючыхся рабселькораў. Факты красамоўна гавораць аб тым, што райтаварыствы паляўнічых і яшчэ працягваюць стаяць у баку ад гэтай сур'ёзнай і надзвычай адказнай работы.

Калі хто хоча пацікавіцца, а колькі-ж рабселькораўскіх допісаў зьмешчана ў часопісі „П. Б.“ на працягу мінулага году, дык пры падліку атрымае вельмі сумны малюнак. З вялікай натугай можна налічыць допісаў 200, самае большае 220, пры 150—160 рабселькорах-паляўнічых. І гэта ў той час, калі паляўнічая арганізацыя яднае ў сабе больш 40 тыс. паляўнічых.

Маючы такі малюнак са становішчам прыцягненьня паляўнічых да ўдзелу ў паляўнічым друку ў некаторых можа ўзьнікнуць пытаньне, а можа паляўнічым няма пра што пісаць? Калі хто такі з райтаварыства паляўнічых ці інш. арганізацыі знойдзецца, дык мы яго можам накіраваць да старонак часопісі „П. Б.“ і ўважліва прачытаць яе. Там ён знойдзе шмат раёнаў з іх штодзенным жыцьцём: змаганьне за плян пушмехзагатовак (па-




Трус:—Ці не памянецца нам жартам, грамадзянін Шкель.

казаны дасягненьні і недахопы), арганізацыя паляўнічай гаспадаркі, культурна-бытавое жыцьцё паляўнічага і інш. І ня дзіўна, што гэтыя раёны ідуць наперадзе па выкананьню пляну. А перадавікоў у нас вельмі мала, як мала і рабселькораў-паляўнічых.

Адсюль і выцякае прамая ісьціна, што там, дзе, хоць што-небудзь ды робіцца ў сэнсе разьвіцьця рабселькораўскага руху,—там справа лепей абстаіць з выкананьнем пляну. Значыць друк зьяўляецца актыўным і самым моцным вагаром у справе своечасовага і поўнага выкананьня пляну.

Перад паляўнічай арганізацыяй на парадак дню пастаўлены цэлы рад пытаньняў у неабходнасьці арганізацыі спэцыяльных паляўнічых саўгасаў і калгасаў, трусаводных фэрм, запаведнікаў і інш.

Было-б зусім памылкова і нават шкодна думаць, што арганізацыя такіх вялікіх работ можа быць праведзена бяз удзелу ў ёй самых шырокіх паляўнічых мас, а толькі непасрэдна Белкахотсаюзам, як кіруючай установай. Гэта палітычная сьлепата, поўнае неразуменьне нашых форм і мэтадаў работы. А вось перад рабселькорамі і стаіць задача: уключыцца ў гэту работу і дапамагаць ня толькі ў самім працэсе будаўніцтва, але і асьвятляць праз друк усё становішча будаўніцтва свае паляўнічае брыгады, райтаварыства, паказваючы канкрэтна дасягненьні, недахопы і шляхі выпраўленьня іх.

І так, чым далей, тым усё больш і больш наніз-ваецца пытаньняў на вострае пяро рабселькора, ў прыватнасьці рабселькора-паляўнічага. Хіба можа цяпер узьнікаць думка аб тым, што рабселькору-паляўнічаму няма чаго пісаць? Вядома, не. Гэта павінны добра ўразумець кіруючыя работнікі райтаварыстваў паляўнічых і сама маса паляўнічых, што без актыўнага ўдзелу саміх мас справа рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі і каапэрацыі будзе вельмі марудна ісьці наперад—самацёкам.

Варта прыгадаць работу трусагадоўчых гаспадарак Гомельскага, Лёзьненскага, Барысаўскага, Чашніцкага райтаварыстваў паляўнічых, якія варыліся ў сваім саку, замкнута, без асьвятленьня ў друку і г. д., як стане зразумелым, якую вялікую ролю тут змог-бы адыграць друк у справе грамадзкай дапамогі па абмену вопытам на лепшую пастаноўку работы, ліквідацыі прарываў у гаспадарках. Трусагадоўчыя гаспадаркі гэтых райтаварыстваў паляўнічых даведзены да поўнага заняпаду.

І яшчэ адно, ня менш важнае пытаньне ў справе ўзьняцьця і разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі, ўсплывае з усёй пукатасьцю на паверхню работы райтаварыстваў паляўнічых — гэта поўны ахоп паляўнічых мас часопісьсю „Паляўнічы Беларусі“. Бяз друку, бяз штодзеннага клопату аб паляўнічым з боку райтаварыстваў і Белкахотсаюза мы ня зможам дасягнуць належных вынікаў па рээрганізацыі нашай сыстэмы на калектывістычных началах, ня зможам узьняць на прынцыповую вышыню культурна-масавую і палітыка-выхаваўчую работу сярод паляўнічых.

Гэта вымагае ад райтаварыстваў паляўнічых дабіцца 100-процантнага ахопу паляўнічых мас часопісьсю „Паляўнічы Беларусі“. Але апартуністы з Веткаўскага і Цэрахаўскага райтаварыстваў паляўнічых не патурбаваліся аб гэтым, і на люты месяц у іх было... 0 падпісчыкаў [1]) А. Б.—Кашалёўскае мела падпісчыкаў на люты—1, Камарынскае—1, Капыльскае—1, Расонскае—1, Шклоўскае—2, Чырвонапольскае—2, Лоеўскае—2, Заслаўскае—3, Каралінскае—3, Парыцкае—3, Хойніцкае—3, Чачэрскае—9 і г. д. і такіх „герояў“ райтаварыстваў паляўнічых з тыражом меней 100 экз. на часопісь за люты месяц мы налічаем да 40.

Асабліва адзначаем Менскае т-ва (18 экз.) і Мазырскае (73 экз.) (у апошнім член праўленьня Белкахотсаюза), якія не забясьпечылі паляўнічых падпіскай на часопісь.

У галіне гэтай работы, як дапаможнай культурна-масавай і палітыка-выхаваўчай, райтаварыствам паляўнічых трэба дабіцца карэннага пералому і давесьці лік падпісчыкаў на часопісь да 20 тыс. экз., вызначаных ЦП Белкахотсаюза ў абвешчанай умове конкурсу на 1933 г. па падпісцы на часопіс „Паляўнічы Беларусі [2]).

Паляўнічыя! ваша справа змагацца пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі за ажыцьцяўленьне пастаноў партыі і ўраду ў галіне паляўнічай гаспадаркі, за перавыкананьне пляну ўсіх відаў загатовак 1933 г. — першага году другой пяцігодкі, за 100-процантную падпіску на сваю часопісь „Паляўнічы Беларусі“, за практычны ўдзел у ёй, шляхам асьвятленьня работы брыгады, райтаварыства.

**Рабселькоры-паляўнічыя! на перадавую лінію агню ў барацьбе за перавыкананьне пляну загатовак 1933 г.**

**Кожнаму паляўнічаму — часопісь „Паляўнічы Беларусі“.**

**Р. К.**

[1]) Зьвесткі даны Саюздрукам за люты м-ц г. г.
[2]) Гл. „П. Б.“ № 12, 1932 г.

## АБУДЗІЦЬ АД СЬПЯЧКІ КАПЫЛЬСКІХ ЧЫНУШ

Гарачымі сьлязьмі плачуць Капыльскія паштовыя чыноўнікі—**Янушка, Бондарава і Грынкевіч**—„пошту Слуцак не дастаўляе. Ну як-жа быць? Як павысіць тыраж? Ну што-ж зрабіць, мае даражэнькія“.

Слуцак, маючы спэцыяльную аўтамашыну для даставкі пошты ў Капыль, размахвае рукамі і супакойвае:—ня кідайцеся ў паніку, пошту даставім.

У Капылі на люты месяц сарвалі падпіску на ўсе выданьні БССР. Пацулярнай часопісі „Паляўнічы Беларусі“ як колк „1“ экз. і г. д.

— Чаму? Як здарылася? — Загадчык райбюро Саюздруку т. **Бондарава** нэрвова разводзіць рукамі: — Чорт яго ведае. Я ня здольна. Няма дапамогі. Хачу кінуць работу (?!).

Дэмабілізацыйныя настроі Капыльскіх паштовых чынуш яўна з месяцу ў месяц зрываюць тыраж на газэту „Калгасьнік Беларусі“ і часопісь **„Паляўнічы Беларусі“**. Капыльскае райаддзяленьне паляўнічых у гэтай справе—таксама бязьдзейная асоба. Якая яму справа да пашырэньня. Хто хоча няхай выпісвае. Вось і ўсё.

Патрэбна абудзіць апартуністычную сьпячку Капыльскіх паштовых чынуш тыпу Бондаравай, Янушка і Грынкевіч. Газэту **„Калгасьнік Беларусі“** кожнаму калгасьніку і працоўнаму аднаасобніку, часопісь **„Паляўнічы Беларусі“** — кожнаму паляўнічаму і вясковаму актывісту.

**Мікола Шэшка.**

# ПАД ПАГРОЗАЙ ЗРЫВУ

Плян загатовак пушмехсыравіны першага кварталу па сыстэме Белкахотсаюзу на 10-III выканан толькі на 81,9 проц. Выкананьне пляну далёка недастатковае, значыць плян загатовак пушмехсыравіны, плян нашага экспарту і ўрэшце плян першага кварталу першага году другой пяцігодкі сыстэма Белкахотсаюзу правальвае.

Дзе-ж хаваюцца прычыны правалу пляну загатовак? Недастатковае забесьпячэньне райтаварыстваў промтаварамі і ахотбояпрыпасамі, недастатковае кіраўніцтва Белкахотсаюзам райтаварыствамі ці недаацэнка загатовак пушмехсыравіны самімі райтаварыствамі, а адсюль і недастаткова разгорнутая імі работа.

Трэба сказаць, што яшчэ ад загатовак 1932 г. за райтаварыствамі маецца запазычанасьць прамфонду і ахотбояпрыпасаў, ды яшчэ ў першым квартале 1933 г. дадаткова дасылаўся прамфонд і ахотбояпрыпасы. Няма такога райтаварыства, якое-б ня было забясьпечана таварамі стымуляваньня, якія ў дастатковай ступені забясьпечваюць выкананьне пляну загатовак першага кварталу.

Белкахотсаюзам увесь час праводзілася і праводзіцца вялікая работа. У адстаючыя па загатоўках рашаючыя раёны пасылаліся інструктары, мала інструктароў — пасылаліся ўсе адказныя работнікі Белкахотсаюзу, пасылаліся райтаварыствам цыркуляры і распараджэньні.

Ну, а загатоўкі?.. Пакуль у раёне сядзіць прадстаўнік Белкахотсаюзу, работа наладжваецца; прадстаўнік атрымоўвае дзесяткі завярэньняў, што плян будзе выканан, што ў далейшым за работу возьмуцца і да прарыву справа ня дойдзе.

Вось некалькі райтаварыстваў, якія сваім невыкананьнем пляну зрываюць работу ўсёй сыстэмы Напрыклад, Прапойскае райтаварыства на 10-III 1933 г. выканала свой плян на 19,4 проц., Чашніцкае—на 19,5 проц., Капыльскае—на 23,7 проц., Талочынскае—на 26,2 проц., Сіроцінскае—на 26,6 проц., Дрысенскае (куставое)—на 27,9 проц., Лёзьненскае—на 29,2 проц., і яшчэ адзінаццаць райтаварыстваў, якія свайго пляну ня выканалі нават напалавіну.

Гэтым райтаварыствам трэба зараз-жа і рашуча перабудаваць усю сваю работу. Трэба з коранем вырваць апартунізм райтаварыстваў паляўнічых, недаацэнку пляну экспартных загатовак, і мэтадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва, кіруючыся 6-ці ўмовамі тав. **Сталіна** дабіцца рашучага пералому ў рабоце, максымальнага перавыкананьня пляну загатовак пушмехсыравіны.

Поруч з ганебна адстаючымі райтаварыствамі паляўнічых ёсьць і такія, якія сваёй ударнай работай перавыканалі плян першага кварталу 1933 г. Напрыклад, Лельчыцкае райтаварыства паляўнічых выканала свой плян на 181,2 проц., Клічаўскае—на 159,2 проц., Мазырскае—151,7 проц., Полацкае—на 146,2 проц., Аршанскае—на 133,2 проц. і яшчэ 21 райтаварыства перавыканалі свой квартальны плян.

Усім райтаварыствам паляўнічых неабходна шчыльна падыйсьці да работы загатовак пушмехсыравіны і дабіцца поўнага выкананьня пляну загатовак першага кварталу, першага году другой пяцігодкі.

**Д.**

# Браць прыклад з паляўнічага КРЭЗО М.

Лепшы ўдарнік-паляўнічы Менскай гарадзкай ячэйкі паляўнічых тав. **Крэзо М. Л.** праявіў бальшавіцкія тэмпы ў арганізацыі загатоўкі мехсыравіны. Ён за час з 1-га лістападу 1932 году па 10 лютага 1933 г. здаў мехсыравіны на 135 руб. 55 к.

Менскаму райтаварыству паляўнічых патрэбна больш актывізаваць гарадзкіх паляўнічых на выкананьне плянаў пушмехсыравіны. Таварыству заняцца пытаньнем вылучэньня лепшых паляўнічых-ударнікаў для прэміяваньня.

Першым ударнікам і маючым права на атрыманьне прэміі па Менскаму райтаварыству паляўнічых—**Крэзо М. Л.**

**Н—ч.**

# Паляўнічыя Усурыйскай тайгі

Ні ў адным з сусьветных зьвярынцаў няма ўсурыйскага тыгра. Часта ў СССР з Эўропы і Амэрыкі на Далёкі Ўсход прыяжджаюць экспэдыцыі паляўнічых з думкай дастаць скуру драпежніка Усурыйскай тайгі.

Адны толькі старыя таежнікі ведаюць сакрэт лоўлі неўлавімага зьвера. У нетрах Усуры карыстаюцца славай браты **Лапцёвы.** Зімою, уходзячы ў тайгу, яны ніколі не вяртаюцца без „паласатага“. Паляваньне на Усурыйскага тыгра — на ўзроўні са сьмерцю. Звычайна адзін з Лапцёвых ідзе проста насустрач тыгру і, калі ашаломлены сьмерцю чалавека зьвер робіць прыжок, другі Лапцёў у гэту сэкунду адным выстрэлам забівае яго.



**Наздымку:** Усурыйскія паляўнічыя прывезьлі ў Нікольск-Усурыйск на склад Саюзахотцэнтра забітага драпежніка.

**Цана 40 кап.**

# Па сьлядох лістоў паляўнічых

### (Рэчыцкі раён)

* Вызначаны плян пушмехзагатовак на 1 квартал 1933 г. у суме 2800 руб. мы выканалі да 1 сакавіка на 3457 руб. 12 кап. Наперадзе цэлы месяц сакавік, які мог бы-даць яшчэ больш як на 1000 р. мехсыравіны—сабак, катоў, але няма на іх карцечы. Белкахотсаюз яшчэ ў кастрычніку месяцы мінулага году абяцаў выслаць яе, але да гэтага часу мы не атрымалі.

За апошнія два месяцы наша райтаварыства не атрымала ніводнага кілё, ні пораху, ні шроту, ні карцечы, ні капсулёў, ні пістонаў, ні прамтавараў, хаця першы квартал ужо перавыканан старымі запасамі боепрыладаў, але гэта ставіць пад пагрозу выкананьне плянаў наступных кварталаў, бо райтаварыства мае перад паляўнічымі запазычанасьць па прамтаварах і боепрыладах больш як на 2000 руб. Гэту запазычанасьць Белкахотсаюз павінен ліквідаваць у бліжэйшыя дні.

**Гай.**

* Загадам № 16 упаўнаважанага Наркамзамежгандлю СССР пры СНК БССР ад 10/II—32 г. Рэчыцкае райтаварыства паляўнічых прэміявана на 200 руб. за пасьпяховае выкананьне пляну пушмехзагатовак у 1931 г. (выканан плян на 129 проц.), але гэта прэміяваньне так і засталося на паперы. Ніхто яго не атрымаў і невядома калі і ад каго будзе атрымана.

Але ўсё-ж трэба знайсьці выхад і атрымаць прэмію Рэчыцкаму райтаварыству паляўнічых. Аб гэтым павінен паклапаціцца Белкахотсаюз.

**Паляўнічы.**

### (Рагачэўскі раён)

* На агульным сходзе паляўнічых у мінулым годзе было шмат гутаркі наконт таго, што ў краме паляўнічых рэдка бывае патрэбнае паляўнічаму, што наогул крамнік клапоціцца толькі аб павялічэньні грашовых зваротаў і прыбыткаў крамы. На гэтай пераважна падставе былога крамніка зьнялі з работы і абралі новага, аб здольнасьцях якога ніхто ня ведаў, але спадзяваліся, што ён напэўне разгорне работу як належыць.

Аказалася, што новы крамнік **Захараў** палічыў лепш за ўсё працаваць на карысьць... уласнай асобы... Агнябоепрыпасаў у краме стала яшчэ менш, чым было раней, а іншых, неабходных для паляўнічых, прылад і зусім няма. Урэшце-ж крама аказалася абкрадзенай. Рэвізія ўстанавіла яшчэ і растрату каля 1500 руб.

У сьледчага крамнік прызнаўся, што гэтыя грошы ён прапіў і, што калі ён яго вызваліць з-пад варты, дык ён растрату пакрые, а калі будзе сядзець пад арыштам, дык не, бо адказнасьць будзе аднолькавая, ці зьверне ён грошы, ці не. З гэтымі яго довадамі сьледчы не згадзіўся і заставіў яго пад вартай да суда. Суд павінен вынесьці прыгавор, прыняўшы закон аб ахове грамадзкай уласнасьці.

Пры падборы крамнікаў і наогул усяго апарату райтаварыства паляўнічых больш клясавай пільнасьці! Райтаварыствам патрэбна праверыць у сябе, ці няма і ў іх крамнікаў тыпу Захарава. **Ш.**

### (Аршанскі раён)

* У адзнаку пасьпяховага выкананьня пляну пушмехзагатовак за 1932 год, Аршанскае райтаварыства паляўнічых пастанавіла прэміяваць: Іванова А. С.—старшыня райтаварыства, Лашчыка Д. П.—інструктар райтаварыства, Жылеўскага Ф. І.—загадчык крамы № 1 (г. Ворша), Вільчынскага Ф. В.—загадчык крамы № 2 (в. Багушэўск) і 21 лепшых паляўнічых-здатчыкаў пушмехсыравіны.

Сярод прэміяваных паляўнічых, якія здалі пушмехсыравіны на большую суму згодна дагавароў і паказалі лепшыя ўзоры ў барацьбе за высокую якасьць скуры, таварышы: **Шакуцін В. І.** здаў на **324, Дабрынскі П. Б.—на 308 руб , Расіцкі В.—на 254 руб., Булаўкін С. А.—на 273 руб., Крыштапаў—на 231 руб., Маскалёў А. на 124 руб.** і г. д.

Адначасова праўленьне райтаварыства адзначае ганебнае адставаньне ў выкананьні пляну пушмехзагатовак Копыскага магазыну, загадчык—**Баразноў Ф. Л.** і прапанавала яму ліквідаваць прарыў на працягу 1 квартала 1933 г. **С.**

### (Магілеўскі раён)

* У рапарце на імя Упаўнаркамзамежгандлю СССР пры СНК БССР загатоўчыя арганізацыі раёну адзначаюць свае дасягненьні па выкананьню пляну 1-га кварталу 1933 г. Імі выканана квартальнае заданьне пушмехсыравіны да 8 сакавіка на 101,1 проц., (заданьне—13.100 р., а выканана на 13.248 р. 75 к.).

Раённы пункт Белпушніны выканаў на 100,9 проц. (заданьне ў 6500 р. выканана на 6560 р.), Райзаг—на 101 проц. (заданьне ў 3100 руб. выканана на 3131 р.), таварыства паляўнічых—на 101,6 проц. (заданьне ў 3.500 руб. выканана на 3557 р. 75 к.). Бялыніцкі і Чавускі раёны, якія ўваходзяць у Магілеўскае кустовае таварыства паляўнічых выканалі сваё заданьне на 122,4 проц. (заданьне ў 2400 руб. выканана на 2929 р. 16 к.).

Усе загатоўчыя арганізацыі раёну абавязаліся да канца кварталу яшчэ загатовіць пушмехсыравіны на 2000 руб. Белпушніна на 1100 руб., Райзаг на 400 р. і таварыства паляўнічых на 500 руб. **С.**

Здана ў набор—21/III-33
Падпісана да друку—29/III-33
Набірала брыгада т. Нячаева
Вышла з друку—1/IV-33
Адказны карэктар друкарні У. Міхалевіч

Рэдкалегія: **Волдынь, Вільдфлуш, Кутылоўскі.**

Адказны рэдактар: **К. Волдынь.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 901. 12300 экз. Мен. Гарліт № 1336.

